

Магілеўскі
# ВЫБАР

№ 10 (48)
Май
2015 г.

Абласная Дэмакратычная Трыбуна

# Пра "Гарадзецкія ўрокі"


АРЕНДА УЧИТ, АРЕНДЕ УЧАТСЯ
А. Г. ЛУКАШЕНКО,
директор совхоза "Городец" Шкловского района Могилевской области
Городецкие УРОКИ
МИНСК «УРАДЖАЙ» 1990

***“Давайце ня будзем тут спяшацца. Надыдзе час, і гэтае пытанне будзе вырашана”,* — выказаўся Аляксандр Лукашэнка аб прыватнай уласнасці на зямлю. *“Галоўнае, каб зараз людзі не баяліся прыйсці на арандаваную зямлю, былі ўпэўненыя, што ў іх яе ніхто не забярэ. Калі ў нас заканадаўства ў гэтым плане не хапае, мы яго дапоўнім. Галоўнае — непахіснасць права прыватнай уласнасці»,* — дадаў ён у час сустрэчы з фермерамі 2 мая 2015 года ў аграгарадку Александрыя, што на Шклоўшчыне.**

Адным з асноўных, праблемных пытанняў, якія стрымліваюць развіццё фермерскіх гаспадарак, што неаднаразовала гучала з вуснаў фермераў, прысутных на сустрэчы — гэта пытанне аб выкупе арэндаванай імі маёмасці. А дакладней — аб цяжкасцях з яго выкупам.

Па іх сведчаннях, пры пераходзе будынкаў і збудаванняў ва ўласнасць, стаўленне да іх было б зусім іншым, і фермеры гатовы інвеставаць у іх рамонт і мадэрнізацыю значныя сродкі.

*“Гэта не той выпадак, дзе дзяржава павінна трымацца за гэтую ўласнасць, напрыклад, стары свінакомплекс, які быў бы даўно ўжо разбураны. Я думаю, нам трэба прадумаць, сабраць разам усе праблемныя пытанні фермерскай супольнасці, звязаныя з уласнасцю, і адным махам іх вырашыць”,* — тут жа даў даручэнне Лукашэнка.

Слухаючы падобныя завярэнні, адразу прыходзіць на памяць, што дзесьці калісьці ўсё гэта мы ўжо неаднаразова чулі, гэтыя яго доўгаіграючыя выказванні аб неабходнасці вырашэння праблемных пытанняў у сельскай гаспадарцы. Бо безліч сельскагаспадарчых аб’ектаў, збудаванняў, фермаў прыйшло ў заняпад за апошнія два дзесяцігоддзі, але так і не былі перададзены ў прыватную ўласнасць або арэнду вяскоўцам.

Яшчэ 28 год таму, ужо ў далёкім 1987 годзе, працуючы дырэктарам саўгаса “Гарадзец” Шклоўскага раёна, Лукашэнка актыўна прапагандаваў новыя формы працы ў сельскай гаспадарцы — арэндны падрад, які, па яго словах, павінен быў выбіць глебу з-пад ног чыноўнікаў. Дадзены досвед прапагандаваўся як у Беларусі, так і для іншых рэгіёнаў Савецкага Саюзу.

А ў 1990 годзе нават пабачыла свет кніга А.Лукашэнкі “Гарадзецкія ўрокі”, дзе ён дзяліўся досведам рэфармавання саўгаса і сцвярджаў, што пры пераходзе на новыя формы чалавек становіцца сапраўдным гаспадаром на зямлі. Не на словах, а на справе. Што невялікія адпаведныя калектывы і фермерскія гаспадаркі адраджаюць вёску, вяртаюць яе да паўнацэннага жыцця.

Перспектывы новых форм гаспадарання Лукашэнка прапагандаваў і сваім асабістым прыкладам. Паралельна з дырэктарствам у саўгасе, ён быў яшчэ зарэгістраваны і фермерам.

*“Селянін, рабочы павінны цвёрда ведаць, што арэнда — гэта не даніна якойсці модзе, гэта не павевы часу, а надоўга. Калі ў самыя кароткія тэрміны карэнным чынам не зменіцца псіхалогія людзей, якія адвыклі дзейнічаць па-гаспадарску, нічога талковага не будзе”,* — пісаў Лукашэнка ў сваёй кнізе.

З тае пары прайшло шмат часу. Многае змянілася: распаўся Савецкі Саюз, Беларусь стала незалежнай дзяржавай, а Лукашэнка стаў першым прэзідэнтам. І ў яго з’явіліся магчымасці правядзення рэформаў не ў асобна ўзятым саўгасе “Гарадзец”, а ва ўсёй сельскай гаспадарцы краіны, каб, нарэшце, на беларускай зямлі з’явіліся сапраўдныя сяляне-гаспадары.

Але ж што атрымалася ў выніку? Што сталася з “Гарадцом”? Што сталася з



беларускай вёскай?

У саўгасе "Гарадзец" за гэты час змянілася больш дзясятка дырэктароў. Пра арэндны падрад там ужо ніхто нічога і не памятае.

А на зямлі ў беларускай вёсцы як не было гаспадара, так і няма. Колькасць фермераў у краіне за гэты час скарацілася ў разы. Адміністратыўна-камандная сістэма не тое, што не зжывае сябе ў рэгіёнах, а наадварот, яшчэ больш ахапіла ўсе сферы мясцовага жыцця.


ЛУКАШЕНКО, АЛЕКСАНДР ГРИГОРЬЕВИЧ.
Л84 Городецкие уроки / [Лит. запись Р.А.Ткачука]. – Мн.: Ураджай, 1990. – 68, [2] с. – (Аренда учит, аренде учатся).
ISBN 5-7860-0337-X : 20 к., 4700 экз.

Арендный подряд – наиболее прогрессивная форма внутрихозяйственного расчета. Первые в Белоруссии арендные коллективы были созданы в совхозе "Городец" Шкловского района Могилевской области. Об опыте их работы и рассказывает в своей книге руководитель этого хозяйства.

Для руководителей и специалистов колхозов, совхозов, агропромышленных объединений, преподавателей и слушателей народных университетов.

1. Ткачук, Рем Андреевич.

№ 670 п ББК 65.9(2)321.1-87
Кн. пал. БССР. 19.10.90. УДК 631.115.17(476.4)
Т 4410 13-90 ЕКЛ 37.1.1

Усё гэта прывяло да таго, што адбываецца інтэнсіўнае старэнне і збядненне сельскага насельніцтва. Зачынены сотні вясковых школ, установ культуры і аховы здароўя. Моладзь не бачыць перспектывы ў вясковым жыцці. І самае страшнае — з году ў год узмацняецца грабежніцкая палітыка дзяржавы ў адносінах да вясковага насельніцтва.

З мапы Беларусі зніклі і працягваюць знікаць тысячы так званых "неперспектыўных" вёсак, зарастаюць хмызняком былыя дабротныя палі і лугі, дзе калісці каласілася жыта і пасвіліся статкі жывёлы. Ды няглядзечы на скарачэнне вясковага насельніцтва, колькасць чынавенства ў сельскіх рэгіёнах і чыноўнікаў, звязаных з сельскагаспадарчай вытворчасцю, пастаянна ўзрастае.

Дык чаму ж Аляксандр Рыгоравіч, стаўшы прэзідэнтам, так баіцца прыватнай уласнасці на зямлю і, нават, "махнуў рукой" на свае "Гарадзецкія ўрокі"? Ён разумее, што стварэнне класа сапраўдных гаспадароў на зямлі — гэта рэальная пагроза існуючаму на Беларусі рэжыму. Кіраваць жа людзьмі, патрэбы якіх звужаюцца да "чаркі і шкваркі", значна лягчэй і працей.

За ўсе гэтыя гады, нават нягледечы на значныя фінансавыя ўліванні (толькі за апошняе дзясяцігоддзе — 45 млрд. дол.), сельская гаспадарка Беларусі так і не дасягнула адпаведных поспехаў.

Зноўку чынавенства вырашае за селяніна — дзе і якую жывелу набываць, якую тэхніку і насенны матэрыял пастаўляць у калгасы і якія аб'екты будаваць на сяле. У выніку атрымліваецца, што сабекошт аднаго скатамесца на пабудаваных у Беларусі комплексах дасягае да 10 тыс. дол., пры еўрапейскіх стандартах — да 3 тыс. еўра, а дзясяткі, сотні мільёнаў долараў на набыццё жывёлы за мяжой асядаюць немаведама дзе.

Пабудаваныя на сяле так званыя "прэзідэнцкія" домікі пераходзяць у разрад аварыйных і непрыгодных для пражывання адразу ж пасля іх уводу ў эксплуатацыю, а новая сельгастэхніка не даходзіць да механізатараў і выходзіць са строю па дарозе з заводаў у гаспадаркі.

І зусім смешнымі выглядаюць словы кіраўніка краіны, выказаныя на сустрэчы з фермерамі ў Александрыі, што еўрапейцы зайздросцяць беларускім аграрыям, бо ў Еўропе далёка не ўсе фермеры могуць дазволіць сабе працаваць на вялікіх плошчах зямлі, бо зямля прыватная і канкурэнцыя вельмі жорсткая…

Няўжо не зразумела, што менавіта адносіны да зямлі ў Еўропе, канкурэнцыя і спрыяюць таму, што кошты на прадукты харчавання там у разы таннейшыя, чым у Беларусі.

Можа быць, Аляксандру Рыгоравічу варта яшчэ раз перачытаць сваю кнігу "Гарадзецкія ўрокі"?..

*Рыгор КАСТУСЁЎ.*

**Паводле дадзеных Белстата, амаль усе асноўныя сацыяльна-эканамічныя паказчыкі Беларусі ў студзені-красавіку 2015 года дэманструюць падзенне.**

**Так, ВУП нашай краіны ў параўнанні з аналагічным перыядам 2014 г. ўпаў на 2,6%, прадукцыйнасць працы — на 1,1%. Вытворчасць прамысловай прадукцыі знізілася на 7,5%, інвестыцыі ў асноўны капітал — на 5,9%, грузаабарот — на 5,2%, тавараабарот грамадскага харчавання — на 10,4%. Спажывецкія цэны выраслі на 16,4%. Пры гэтым на прамысловую прадукцыю цэны выраслі на 17,5%, на сельскагаспадарчую прадукцыю — на 11,7%, а ў сферы будаўніцтва — на 14,7%. Сумарная завінавачанасць прадпрыемстваў за год вырасла на 31,9%. Аб'ём знешняга гандлю таварамі і паслугамі ў 1-м квартале ўпаў на 30,7%. Намінальная заработная плата беларусаў вырасла на 13,1%, аднак рэальная знізілася на 4,2%. Колькасць працаўнікоў, пераведзеных на няпоўны працоўны дзень, у сакавіку 2015 г. ў параўнанні з сакавіком 2014 г. павялічылася ў 5,5 разоў. Колькасць працаўнікоў, адпраўленых у адпачынак без захавання заработнай платы альбо з частковай яе выплатай, узрасло ў 2,8 разоў.**

**Аднак па беларускім ТБ пра гэтыя сумныя вынікі чамусьці не кажуць. Затое там гадзінамі распавядаюць пра тое, колькі "дармавых" грошай дасць нам у крэдыт братэрскі Кітай і як мы пасля гэтага слаўна зажывём.**

**Але браты-кітайцы даюць свае грошы толькі для таго, каб мы закупілі на іх "якасныя" кітайскія тавары і абсталяванне. Ну а нам і нашым дзецям з унукамі застануцца даўгі, якія ў любым выпадку патрэбна будзе плаціць. А пакуль, паважаныя чытачы, уважліва слухайце выказванні Аляксандра Рыгоравіча, накшталт гэтага: *"Мы будем сохранять трудовые коллективы, но поддерживать будем только тех, кто хочет работать. Впереди еще более мощная конкуренция. Поэтому разгильдяям, тунеядцам, алкоголикам и проходимцам в трудовых коллективах делать нечего"* (на сустрэчы з працаўнікамі МТЗ 15 мая). Ды рыхтуйцеся да звальненняў. Бо, чамусьці, чыноўнікі ў нас заўсёды вельмі добрыя, а "рабацягі" – спрэс "разгільдзяі, дармаеды і алкаголікі"…**

**Іван БАРЫСАЎ.**

# Крах модели Халайды

(**Халайда** (мест.) – *псевдостратег*)

Известный белорусский писатель Владимир Короткевич в своё время сравнил Мстиславль с осколком зеркала, в котором отражаются солнце и звезды и вся непростая история Беларуси. В самом деле - с Мстиславлем связаны славные страницы летописи белорусского народа, его духовной и материальной культуры. Интересный исторический факт – с 1180 г. когда князь Роман Ростиславович отписал город в удел своему сыну Мстиславу и Мстиславль стал столицей удельного княжества, в его состав входили Кричев, Чериков, Чаусы и, даже, Могилев. С 1352 г. Мстиславль в Великом Княжестве Литовском. В 1634 г. король Владислав IV дал городу Магдебургское право – право на самоуправление. В 1772 г., после первого раздела Речи Посполитой, Мстиславль отошел к России, став провинциальным городом Могилевской губернии (уезд с 1777 г.) и к середине XVIII века пришел в упадок. О былом величии Мстиславля напоминают многочисленные памятники истории, а каменные мостовые города хранят в себе шаги уходивших на Грюнвальдскую битву воинов...

Сегодня город украшают такие памятники зодчества, как кармелитский костел Успения Божьей матери и Александро-Невский православный храм. Впрочем, слово «украшает» не совсем подходит к костелу – его никак не могут отреставрировать и своим затрапезным видом это когда-то величественное здание основательно портит вид города. Тем не менее, одним из перспективных потенциалов Мстиславщины является развитие музейно-экскурсионной деятельности.

Что ж, обращение к истории закономерно - днем сегодняшним Мстиславлю, вернее, местным властям, гордиться особенно нечем. В 2014 г. по сравнению с предыдущим годом производство валового регионального продукта упало на 3%, а объем промышленной продукции составил только 77,1% к уровню 2013 г. При этом, отгружено промышленной продукции только 92,2% от объема произведенной. Объем производства по набору товаров-представителей в целом по району составил 59,9% к уровню 2013 г. За 2014 год выручка от реализации продукции увеличилась на 13,9% (радует сокращение реализации алкоголя на 7,3%), при этом рентабельность реализации уменьшилась на 3,5 процентных пункта. В целом по району получена чистая прибыль в сумме 78,1 млрд. рублей и снизилась по сравнению с 2013 г. на 20,7%. Задание по росту зарплаты с начала года выполнено на 98,1%, а район по уровню зарплаты занимает последнее место в республике. Инвестиции в основной капитал сократились на 20,8%, при этом частные предприятия инвестиции к уровню 2013 г. увеличили в 2,6 раза (не повод ли обратить более пристальное внимание на частный сектор экономики района?). Бюджет за 2014 г. исполнен с дефицитом в 2,351 млрд. руб., при этом штрафы с населения и субъектов хозяйствования составили немыслимую сумму для района – 1 млрд. рублей. Как видим, не помогло. Кредиторская задолженность на 1 января 2015 г. составила 684 млрд. рублей, дебиторская – 98,6 млрд. рублей, – фактически район является банкротом. Только одно предприятие района, ОАО «Мстиславльлён», сработало с плюсом в 0,1 процентный пункт при плане ежегодного наращивания объемов производства не менее чем на 3,7%. Провальным был 2014 год для ОАО «Мстиславский маслодельно-сыродельный завод» - только 49,8% к уровню 2013 г. - производство масла сливочного снизилось на 90,5%, молока в твердых формах на 86,6%, творога на 81,6%, корма вообще прекратили производить. А ведь в модернизацию маслозавода за последние годы вложено 64 млрд. рублей!

Мстиславский филиал ОАО «Домочай» снизил объем производства на 1,9% (инвестиции при этом составили 600 млн. рублей), УКПП «Водоканал» на 3,6%, УКПП «Жилкомхоз» на 7,7%.

Экспорт в 2014 году в районе «упал» в 5 раз, импорт – в 200. Товарная структура экспорта: хлеб и хлебобулочные изделия, мясо, овощи, льноволокно и льносемена, сыр и масло. И всё это экспортируется только в Россию. Согласитесь, инновационную продукцию на экспорт район поставлять в ближайшем будущем вряд ли будет. В частности, маслозавод практически прекратил экспортные отгрузки продукции, хотя и определен как экспортно-ориентированное производство. Согласно Программе развития Мстиславского района на 2011-2015 г.г. удельный вес отгруженной инновационной продукции в 2015 году должен составить 40%, на самом деле мы видим крах в реализации промышленной политики – доля инновационной продукции составляет несколько процентов (не поддается точному исчислению). Район пытается избавиться от убыточных предприятий. База УКПП «Водоканал» выставлялась на аукцион с понижением начальной суммы продажи на 20%. В этом году будет выставляться с понижением цены на 50%. Еще 3 объекта потенциальным покупателям предлагаются за 1 базовую величину. Желающих почему-то нет.

В сельском хозяйстве ситуация не лучше: численность скота в районе за год сократилось на 1,4%, реализация мяса – на 18,9%. Средний надой на 1 корову составил 3466кг (-97 кг) или 97% к уровню 2013 г. Произведено молока на 0,8% меньше прошлогоднего уров-

ня, мяса - на 6,5%. По надоям молока район на 97 месте в РБ. Хозяйства, которые тянут район вниз турнирной таблицы по надоям на 1 корову: ОАО «Селекционно-гибридный центр «Вихра» - минус 30 кг, СПК «Сожагро» - минус 251 кг, СПК «Советская Беларусь» - минус 283, СПК «Мишино» - минус 1035 кг за год. В свиноводстве района также масса проблем: СПК «Мазоловский» и ОАО СГЦ «Вихра» снизили производство свинины на 10,7%, что кардинально повлияло на показатели района в отрасли сельского хозяйства. Вряд ли что-то революционное произойдет в сельском хозяйстве района и в текущем году – в 2014 г. на 1 условную голову заготовлено 24,2 ц кормовых единиц травянистых кормов – не потому ли на трассе на Мстиславль замечены большегрузные автомобили, груженые сенажом?

Местное руководство гордиться тем фактом, что за 2014 год в Мстиславском районе реконструировано 9 молочно-товарных ферм. В самом деле, работы сделано много в этом направлении. А вот есть ли результат? Посмотрим на областную сводку по производству молока – Мстиславский район сейчас на 13 месте и «доит» только на 3% выше уровня прошлого года. Стоят ли миллиардные инвестиции такой «прибавки»?

Впрочем, подобная ситуация наблюдается повсеместно – это ли не крах модели развития сельского хозяйства? Крах модели Халайды. Ведь, фактически, лицо животноводческой отрасли района определяют старые наработки и животноводческие помещения еще советских времен постройки. Или другой пример. В районе активно занимаются мелиоративными работами. Насколько это важно, покажет жизнь, но в прошлом году из-за неплатежеспособности местных субъектов хозяйствования-заказчиков областному бюджету пришлось раскошелиться на 1,2 млрд. рублей для оплаты работ, произведенных мелиораторами. Урок не впрок - в 2015 г. по трассе Могилев – Мстиславль (на отрезке дороги Чаусы – Мстиславль) на мелиоративных мероприятиях (по-другому и не назовешь) опять работало 6 пар бульдозер-экскаватор, которые уничтожали растительность в пониженных местах. В результате в конце апреля можно было на полях наблюдать песчано-глиняные мелиоративные «пятна», окультуривать которые придется десятилетиями. Деньги откуда? В чем смысл такой «мелиорации»? Ведь 23 апреля на полях района вообще сельскохозяйственная техника не была замечена на посевных работах. Говорят, солярки не было – вот вам и развитое сельское хозяйство в отдельно взятом районе, вот и смысл «мелиорации».

Есть проблемы в районе, которые не решаются десятилетиями – загрязнение реки Вихра стоками очистных сооружений г.Мстиславля. И хотя на реконструкцию очистных сооружений освоено 13 млрд. рублей, технологическое оборудование приобрести так и не удосужились. Впрочем, только для строительства очистных сооружений на свиноводческом комплексе СПК «Мазоловский» не достает 12 млрд. рублей. Один из нюансов реалий мстиславщины - численность жителей района 22,1 тыс. чел. Миграционная убыль за 2014 г. составила 452 чел., естественная убыль – 162 чел. Итого за год население района уменьшилось на 614 чел. То есть, за год по населению район практически потерял крупный агрогородок, которыми также гордится местное руководство (в сельской местности района, кстати, пустует 87 домов).

Занимается ли кто анализом ситуации? Или реальные проблемы по наращиванию экспорта товаров и услуг, увеличению рентабельности продаж, снижению затрат, прежде всего, в сельскохозяйственных организациях, рост валовой продукции затмили иные проблемы района? В 2015 г. будет решаться судьба «Дожинок-2016» в Могилевской области. Мстиславский район претендует на почетное их проведение – именно с дожинками связаны фантазии местного руководства по решению проблем хозяйственного и культурного направлений. Насколько же реальны эти фантазии – покажет время, но пока в районе провалено все, что даже нельзя было провалить.

Закономерно ситуация складывается в режиме грядущих кадровых изменений. Судя по устойчивости негативных показателей в «развитии» района, кого-то из местного руководства должны отправить на повышение – в Могилев или Минск. Что ж, в государстве, где правит Халайда, такой сценарий и есть предтеча краха всех планов – и в Мстиславле, и в нашей стране.



***Пётр МИГУРСКИЙ.***

## АДУСЮЛЬ ПАКРЫХУ

**Золатавалютныя рэзервы Беларусі ў красавіку 2015 г. выраслі на 10,7 млн. долараў і на 1 мая 2015 г. склалі 4571,3 млн.. долараў. З пачатку года ўзровень ЗВР знізіўся на 487,8 млн.. долараў. На 1 студзеня 2015 г. іх аб'ём складаў 5059,1 млн. долараў.**

**Былы дырэктар ААТ "Магілёўсаюздрук" абвінавачваецца ў крадзяжы больш Br280 млн. Праведзенымі першапачатковымі следчымі дзеяннямі ўстаноўлена, што ў перыяд з лютага 2014 г. па сакавік 2015 г. дырэктар таварыства, з'яўляючыся службовай асобай, выкарыстоўваючы свае службовыя паўнамоцтвы, неаднаразова незаконна адбіраў з касы грашовыя сродкі, якія паступалі ў якасці выручкі ад рэалізацыі таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў. Такім чынам ён здзейсніў крадзеж грашовых сродкаў ў асабліва буйным памеры.**

**Накладзены арышт на маёмасць абвінавачанага на суму звыш Br21 млрд. Ужытая мера стрымання ў выглядзе заключэння пад варту. Следствам прынята рашэнне аб узбуджэнні крымінальнай справы**

# Пра заробкі

Нашы мудрыя статыстыкі падвялі вынікі працы Магілёўскай вобласці ў першым квартале 2015 года і абвясцілі некаторыя цікавыя лічбы.

У прыватнасці, працаўнікі на ніве статыстыкі з імпэтам паведамілі пра тое, што намінальная налічаная заработная плата працаўнікоў арганізацый Магілёўскай вобласці ў 1 квартале 2015 г. склала 5 393,6 тыс. рублёў, у тым ліку ў сакавіку – 5 633,5 тыс. рублёў, што на 343,7 тыс. рублёў, альбо 6,5% больш, чым у лютым 2015 года. Праўда, калі параўноўваць з першым кварталам 2014 года, адразу высвятляецца, што рэальная зарплата працаўнікоў у вобласці не толькі не вырасла, а, наадварот, знізілася на 5,1%, а ў тым жа сакавіку ў параўнанні з сакавікам 2014 г. знізілася яшчэ больш – на 5,2%. Між тым, згодна зацверджанага Пастановай Савета міністраў Рэспублікі Беларусь ад 24 снежня 2014 г. № 1238 празноза на 2015 г. сярэдні заробак у Магілёўскай вобласці павінен складаць не 5 630 тыс., а 6 120 – 6 140 тыс. рублёў…

Аднак яшчэ цікавей мне стала далей, калі я пачаў больш уважліва аналізаваць дадзеныя нашых магілёўскіх статыстыкаў. Аказалася, што насам рэч у нашай воласці хоць неяк растуць заробкі толькі ў працаўнікоў бюджэтнай сферы – у бюджэтных арганізацыях намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата ў 1 квартале 2015 г. склала 4 852,8 млн. рублёў, у тым ліку ў сакавіку – 5 038,7 тыс. рублёў, (на 231,3 тыс. рублёў, альбо на 4,8% больш, чым у лютым 2015 г.). Рэальная заработная плата ў бюджэтных арганізацыях у 1 квартале 2015 г. параўнанні з 1 кварталам 2014 г. павялічылася на 5,1%.

Цікава, што ў той жа час у прамысловасці Магілёўскай вобласці у сакавіку сярэдняя заработная плата склала 6 020 тыс рублёў і знізілася ў параўнанні з сакавіком 2014 г. з улікам росту спажывецкіх цэн на тавары і паслугі на 11,3%, у будаўніцтве – 6417,7 тыс. (знізілася на 8,1%), на транспарце і ў сувязі – 6 462,7 (знізілася на 3,2%), у сельскай гаспадарцы, паляўніцтве і лясной гаспадарцы – 4 572,7 тыс. (знізілася на 1,6%).

Затое ў той жа адукацыі, якая знаходзіцца “на бюджэце”, сярэдні заробак склаў 4 618,7 тыс. рублёў і рэальна павялічыўся ў параўнанні з мінулагоднім на 7,1 %. Заработная плата работнікаў аховы здароўя ў сакавіку склалася ў памеры 5 391 тыс. рублёў, што з улікам роста спажывецкіх коштаў на тавары і паслугі на 12,3% вышэй, чым у годам раней, у тым ліку ўрачоў – 9 308.1 тыс. (на 13,6% вышэй), сярэдняга медыцынскага персанала – 5 432,92 тыс. рублёў (на 15,7% вышэй).

Безумоўна, можна толькі парадавацца за нашых бюджэтнікаў і за рост іх заробкаў, аднак, калі пачынаеш крыху задумвацца, асаблівых падстаў для радасці чамусьці не знаходзіш. Ужо некалькі месяцаў запар эканоміка Магілёўскай вобласці знаходзіцца ў стагнацыі, змяншаецца аб'ём вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі, пагаршаецца эканамічны стан прамысловых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. Так, дэкларуемая пратэрмінаваная запазычанасць па заработнай плаце ў вобласці на 1 красавіка складала 26,4 млр. рублёў, альбо 1,5% ад фонда заработнай платы за люты. Думаю, што ў рэальнасці гэтая запазычанасць значна больш вялікая, бо шмат якія арганізацыі справаздачацца аб адсутнасці запазычанасці па выплаце заробкаў толькі на паперы.

Расце і запазычанасць арганізацый вобласці па крэдытах і пазыках на выплату заработнай платы – на 1 сакавіка 2015 г. яна складала 186,8 млр. рублёў, альбо 10,7% ад налічанага за месяц фонда заработнай платы (на 1 лютага 2015 г. запазычанасць складала 175,1 млр. рублёў, альбо 10%).

Складваецца ўражанне, што праблемы працаўнікоў прамысловасці і сельскай гаспадаркі нашы ўлады не вельмі хвалююць. Іншая справа бюджэтнікі - напрыканцы красавіка Саўмін прыняў чарговую пастанову, якая дазваляе раз на квартал падвышаць ім заработную плату за кошт эканоміі бюджэтных сродкаў, выдзеленых арганізацыі.

Зразумела, што ўжо ў хуткім часе павінны адбыцца чарговыя выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, таму залагоджваць працаўнікоў бюджэтных арганізацый, якія складаюць аснову выбарчых камісій, уладам, безумоўна, трэба.

Ну а працаўнікі рэальнага сектара эканомікі краіны няхай самі выжываюць, калі змогуць, хоць менавіта яны і забяспечваюць паступленне ў казну дзяржавы тых грошай, якія ідуць на выплату заробкаў бюджэтнікам.



*Барыс ВЫРВІЧ.*

## АДУСЮЛЬ ПАКРЫХУ

**ААТ «Кажэўнік» павінна вярнуць у рэспубліканскі бюджэт дзяржаўную дапамогу ў аб'ёме 146,9 млн. руб. Пра гэта гаворыцца ў пастанове Савета міністраў № 409 ад 14 мая. Урад пастанавіў «адмяніць дзяржаўную падтрымку, аказаную адкрытаму акцыянернаму таварыству “Кажэўнік”. Нагадаем, у красавіку эканамічны суд Магілёўскай вобласці прызнаў ААТ «Кажэўнік» банкрутам і адкрыў ліквідацыйную вытворчасць. Крэдыторская запазычанасць ААТ склала каля 30 млрд. руб.**

**Пасля «рэферэндуму» 1995 года, які надаў рускай мове статус другой дзяржаўнай, колькасць школьнікаў, якія вучацца на беларускай мове, паменшылася з 536 тыс. (1995 г.) да 135 тыс. (2014 г.). 20 гадоў таму на роднай мове навучалася 35% усіх школьнікаў.**

*Падрыхтаваў Міхась БАРАЗНА.*

# Как помочь человеку

Прокуратурой Хотимского района по материалам проверок и уголовным делам проанализировано состояние законности и правопорядка в районе за 2014 год. За двенадцать месяцев зарегистрировано 106 преступлений (+ 6 преступлений). Уровень преступности на 10000 населения в районе составил 92,17 преступления (в 2013 был 82,7). Не буду анализировать все виды преступлений, остановлюсь только на преступлениях, связанных с алкоголизацией населения.

Статистика свидетельствует о том, что ежегодно население района уменьшается. Однако, количество лиц, поставленных на учёт к наркологу и состоящих там, увеличивается. Если за 2012 г. на учёт к наркологу было поставлено 33 человека, за 2013 – 48, за 2014 – 55. Кстати, на сегодняшний день, в Хотимском районе нарколог отсутствует, поэтому не все поставлены на учёт.

На практике 80 % преступлений совершается людьми в состоянии алкогольного опьянения. Этому способствует широко развитая сеть «социальных дилеров», реализующих по первому требованию зависимых алкогольную продукцию собственного производства, изготовленную из опасных для здоровья человека продуктов. В каждой деревне есть такой человек.

Очень беспокоит тот факт, что подвержены алкоголизации пенсионеры всех возрастов. Дилеры отпускают алкогольную продукцию с рассрочкой выплаты до получения пенсии, забирая у данной категории паспорта. Все об этом знают, начиная от старост деревень до председателя районного Совета и председателя районного исполнительного комитета. В курсе дела и районный отдел внутренних дел.

За распространение наркотиков у нас в стране приняты жёсткие меры воздействия против лиц, занимающихся их распространением, а с этих – как с гуся вода, хотя не известно, что хуже.

К празднованию 70-летия Победы, подготовлены документы на амнистирование 8,5 тысяч заключённых, осужденных за мелкие преступления. Что их ждёт на долгожданной свободе? А ситуация усугубляется тем, что ранее судимые, возвращаясь из мест не столь отдалённых, не желают устраиваться на работу, и, не имея средств существования, снова идут на преступления. В основном это мелкое воровство. Но взглянем на картинку совсем с другой стороны. Я как бывший руководитель, проработав на многих хозяйственных руководящих должностях, имел возможность принимать или не принимать такой контингент. Тщательно изучая трудовые книжки, я мог селекционно проводить отбор. Если у него пять и более ходок, то с таким человеком нет смысла вести диалог, понятно, что он никогда работать не будет. Исходя из здравого смысла, такие вопросы не решались положительно.

Но вопрос остаётся: куда трудоустроится такому контингенту людей? Ведь это наши люди. Однако, большинство из этой категории страдают хроническим алкоголизмом, ведут асоциальный образ жизни, этим самым отторгая себя от основной части общества. Хотя для всех их на момент возвращения в родные пенаты бронируются рабочие места. Руководители не в восторге от таких работников и всячески стараются отказать им в трудоустройстве. Не в нашей компетенции делить людей на хороших и плохих, и им нужно оказывать поддержку. Но как?

На мой взгляд, видя этих людей, которые особенно в зимнее время прозябают, голодные и холодные, не имея куска хлеба и крыши над головой, нужен центр реабилитации, по простому – ночлежка. Будучи в Польше лет восемь назад, в Варшаве, мне пришлось побывать в таком приюте, его название «Приют имени Марии–Терезы». В приюте находилось около 190 человек разной категории и возрастов. Были там и не ходячие, слепые, глухие, но были и люди вполне работоспособные и здоровые. У многих из них не сложились семейные отношения, и они стали опускаться в бездну. Но этот приют позволял им найти кусок хлеба и постель. И, как рассказал нам руководитель этого учреждения, каждое утро к приюту подъезжает от 20 до 30 работодателей и с ними заключается временный контракт на выделение для работы посетителей приюта. Обязательным правилом контракта было, чтобы работодатель накормил работников хорошим обедом, без спиртного, а заработанные деньги перечислил в приют - около 50 долларов США за одного работника в день. Мне это очень понравилось, и я надеялся, что такой приют будет и у нас. Здание (бывший детский сад № 1 Хотимска) для этого было готово, нашлись и спонсоры: шведы предложили финансирование и персонал. Однако со шведов потребовали взятку 20.000 долларов, они возмутились и уехали восвояси. А за это время из жизни ушло более 200 обездоленных человек, а детский сад пошёл под нож бульдозера.

Всё же, нам нужно идти по этому пути. Этих людей осталось немного, они выживают, как могут. Более молодые едут на заработки в Россию, а более старые выживают за счёт сбора грибов и ягод, вторичного сырья, подрабатывают в личных подсобных хозяйствах.

Я уверен, что адаптацией ранее судимых граждан в Хотимском районе да и в других районах нашей страны никто по существу не занимается. И поэтому они идут на новые преступления, чтобы опять попасть за решётку.

Каждый человек имеет право на жизнь и общество должно гарантировать ему её.

***Валерий КОРОНКЕВИЧ.***

# Со слезами на глазах

Этот день я запомнила на всю жизнь. В этот день, я точной даты не помню, я пошла в местный «Универсам», где купила около килограмма «кооперативной» колбасы за 5 рублей 20 копеек. Каково же было моё удивление, когда я увидела, что из кабинета завмагазина вышел энергичный молодой человек, из портфеля которого выглядывала точно такая же колбаса с оценочной лентой вдоль, на которой было написана цена - 2 руб. 20 коп. Но за целую палку колбасы чиновник заплатил столько же, как я за отрезанный кусок. Естественно, что я поинтересовалась данным несоответствием. Вот здесь всё и началось, а закончилось почти через 4 года. И «давили» меня сначала всем районом, потом областью, а потом уже в кабинете Совета министров БССР какой-то мелкий чиновник, на приём к которому я попала, открытым текстом сказал: «Зачем вы сюда приехали? Вы знаете, какую «золотую жилу» вы нам закрыли!» Комментарии, как говорится, излишни.

Омерзительно было то, что круглянские чиновники обирали ветеранов Великой Отечественной войны. И всё это делалось без зазрения совести. Наше поколение помнит, как трудно было с продуктами в те годы конца семидесятых - начала восьмидесятых. При расследовании этого инцидента выяснилось, что наши ветераны не получали «паёк», который для них выделялся. Всё поедалось местным чиновничеством.

Победа в той войне для меня была святой, как и для многих моего поколения. И циничность происходящего в нашем районе меня потрясла. Я без оглядки отдалась борьбе за права этих людей, благодаря которым была эта святая Победа. Я не знала тогда, что против меня встанет «вся королевская рать». То, через что я прошла, страшнее войны. Убить меня пытались не только физически, но что ужаснее, духовно. Со всей откровенностью мне давали понять, что это не моё дело. Всё, во что я свято верила, что вложили в меня родители и учителя, всё было попрано за те страшных четыре года. Я прошла к своей «победе» через газеты и многие приёмные, включая приемную ЦК Партии в Москве. Магазин в Круглом для ветеранов открыли! Выдачу пайков наладили, но за отобранный кусок, в который входила не только колбаса, я прошла все «круги ада», которые невозможно даже представить. Я была одна в своей борьбе, и выжить мне помогала моя Великая Вера в наш строй. «Нам солнца не надо – нам партия светит, и хлеба не надо – работу давай»... Чем меня только «не пугали»! «Прокатили» с работой по всем организациям. Пытались убить в подсобном помещении гаража ПМК-116, на территории которого я проживала с семьёй в недостроенной конторе. Были проблемы с получением квартиры, с последующим трудоустройством. Готовились документы, чтобы поместить меня в «психушку»... А сколько кабинетов мне пришлось пройти от государственных органов до правоохранительных. И во скольких кабинетах мне было отказано в доступе «к телу» того или иного «большого» чиновника. К примеру, чтобы понять, как это было, я приведу единственное: трое суток вместе со старшим 12-летним сыном я прождала, греясь, на решётках в московском метро, чтобы записаться и попасть на приём в ЦК партии КПСС. Это был январь 1985 года. К слову сказать, там я узнала о депортации крымских татар. Они подавали заявления о возвращении на Родину. Было собрано, как я поняла, тысячи подписей.

Я вернулась в Круглое, а мои документы уже были пересланы в райком партии. И завертелось. Тут меня не бил только ленивый. Знакомые переходили на другую сторону улицы, чтобы не увидели, что они со мной здороваются. Чиновники грозили посадить за тунеядство, попутно отказывая мне в приёме на работу во всех организациях. А у меня было трое детей, двоим из которых не было и трёх лет. Рядом оставались только родители и муж, который не испугался угроз и не предал меня ни разу. А какие только провокации не были! Я испытала даже то, что испытывали наши люди в годы войны – голод. Я падала в голодные обмороки. Я ходила в уценённых обносках…

И здесь грянула перестройка! И я «выплыла»! Я выжила! Областной прокуратурой я была восстановлена на работе, потому что приехал прокурор – ветеран войны. Я получила трёхкомнатную квартиру, правда, страшно изуродованную (потом смеялись, что я чуть не упала, увидев её.) Но крыша над головой у меня была! И самое главное, я была приглашена на новое место работы. Меня выбрал коллектив своим, пусть маленьким, но руководителем! Я возрождалась, как Феникс из пепла. Я снова верила! Я снова была готова к борьбе!..

…И до сих пор я несу «этот крест», но сейчас он мне уже не давит на плечи. Я даже благодарно судьбе за него!

А что же те, кто «жрал» ветеранские пайки? Кто-то пошёл на повышение, некоторые остались в районе, кто-то в области, кто-то в Минске. Те, что ещё живы, будут стоять на параде Победы и «чествовать» оставшихся ветеранов за их мужество. И вспоминать Сталина.

«Всё те же лица,
были что когда-то,
Что правили и миром
и судьбой…
Вы хорошо пристроились,
ребята,
За сталинской доскою
гробовой!»

С ПРАЗДНИКОМ, ВЕТЕРАНЫ!
С ПРАЗДНИКОМ,
ЧЕСТНЫЕ ЛЮДИ!

*Зинаида МИЛЕЩЕНКО.*

# Вярхоўны суд не знайшоў...




***Вярхоўны суд Беларусі не ўгледзеў парушэнні ў прыцягненні журналіста-фрылансера з Магілёва Аляксандра Буракова да адміністрацыйнай адказнасці па абвінавачванні ў незаконным вырабе прадукцыі СМІ.***

16 верасня 2014 г. сем супрацоўнікаў міліцыі правялі ў кватэры журналістаператрус. Яны канфіскавалі два ноўтбукі, якія належаць жонцы Буракова.Ператрус быў праведзены таксама ў кватэры бацькоў Буракова, дзе міліцыянты канфіскавалі два сістэмныя блокі кампутараў. У пастанове на ператрус было ўказана, што Буракоў супрацоўнічаў з сайтам радыё "Нямецкая хваля" без акрэдытацыі. Пасля Буракоў быў абвінавачаны ў тым, што яго артыкул "Сцежкай кантрабандыста: ці працуюць расійскія санкцыі ў прыграніччы" апублікаваў інтэрнэт-сайт радыёстанцыі "Нямецкая хваля". Гэта, на думку праваахоўнікаў, з'яўляецца правапарушэннем па частцы 2 артыкула 22.9 КоАП (незаконны выраб прадукцыі СМІ).

8 кастрычніка суддзя суда Ленінскага раёна Магілёва Алена Волкава аштрафавала Буракова на 6 млн. рублёў, прызнаўшы яго вінаватым у правапарушэнні. 20 лістапада суддзя Магілёўскага аблсуда Міхаіл Мельнікаў пакінуў без задавальнення касацыйную скаргу Буракова. Кіраўнік аблсуда Ігар Прошка 10 сакавіка 2015 не ўгледзеў парушэнняў з боку падначаленых у справе Буракова і таксама адхіліў яго скаргу. 30 сакавіка журналіст звярнуўся ў Вярхоўны суд.

*"Вы, як фізічная асоба, на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь займаліся зборам і падрыхтоўкай (стварэннем) інфармацыйнага паведамлення (матэрыялу), распаўсюджанага праз глабальную кампутарную сетку інтэрнэт, гэта значыць фактычна ажыццяўлялі прафесійную дзейнасць журналіста па вырабе прадукцыі сродку масавай інфармацыі для замежнага СМІ",* - гаворыцца ў адказе Буракову, падпісаным 14 мая намеснікам старшыні Вярхоўнага суда Русланам Аніскевіч.

Адзначаецца таксама, што Буракоў, згодна з паведамлення МЗС, не акрэдытаваны ў Беларусі ў якасці карэспандэнта якога-небудзь замежнага СМІ. Такім чынам, довады журналіста аб адсутнасці ў яго дзеяннях складу правапарушэння і аб парушэнні яго права на распаўсюд інфармацыі прызнаныя недакладнымі.

*"Парушэнняў норм працэсуальнага права, што цягнуць адмену судовых пастаноў, не дапушчана. Падстаў для адмены пастаноў няма",* - адзначае Аніскевіч.

Буракоў не задаволены рашэннем Вярхоўнага суда і мае намер падаваць скаргу ў Камітэт ААН па правах чалавека (КПЧ). *"Усе гэтыя этапы абароны майго права ў Рэспубліцы Беларусь мной былі пройдзены ў рамках стратэгічнай цяжбы. Я з самага пачатку арыентаваўся на КПЧ",* - заявіў журналіст.

Расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да дэпутата Магілёўскага гарадскога Савета дэпутатаў 27 склікання завершана. У ходзе следства ўстаноўлена, што дэпутат, які займаў пасаду дырэктара аднаго з КУП Магілёва, дапушчаючы непрымальныя метады кіраўніцтва пры арганізацыі дзейнасці прадпрыемства, сістэматычна з 2011 па 2012 г.г. злоўжываў сваім службовым становішчам. Жадаючы пазбегнуць матэрыяльных затрат, ён завалодаў таварна-матэрыяльнымі каштоўнасцямі узначаленага ім прадпрыемства і незаконна выкарыстаў працу падпарадкаваных яму рабочых для выканання будаўнічых работ у сябе ў доме. Прычыненую шкоду на суму каля Br11 млн. у ходзе папярэдняга следства абвінавачваны добраахвотна кампенсаваў. Былому кіраўніку прад'яўлена абвінавачанне ў крадзяжы шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі. Сваімі дзеяннямі ён дыскрэдытаваў аўтарытэт кіраўніка дзяржаўнага прадпрыемства ў вачах падначаленых, а таксама, з'яўляючыся дэпутатам, негатыўна паўплываў на стварэнне станоўчага іміджу прадстаўніка ўлады, чым прычыніў істотную шкоду дзяржаўным інтарэсам. Абвінавачаны заключаны пад варту. Следствам прынята рашэнне аб перадачы крымінальнай справы пракурору для накіравання ў суд.

У ходзе працяглых аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў супрацоўнікамі УБЭП УУС Магілёўскага аблвыканкама спынена злачынная дзейнасць службовай асобы ААТ «Магілёўскі мясакамбінат», які ўваходзіць у склад Назіральнага савета прадпрыемства. Папярэдне ўстаноўлена, што дадзеная асоба здзяйсняла крадзяжы мясной прадукцыі акцыянернага таварыства, якую затым рэалізоўвала пры ўдзеле свайго сына на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі. 16 мая па аператыўных матэрыялах ўзбуджана крымінальная справа. Указаная асоба затрыманая. Заўважым, што на мінулым тыдні пракуратура Магілёўскай вобласці распачала крымінальную справу ў дачыненні да намесніка дырэктара ААТ "Магілёўскі мясакамбінат".

*Падрыхтаваў Антон ДУБАЛОМАЎ.*

Магілёўскі ВЫБАР

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адрас рэдакцыі: 213155, Магілёўская вобласць, Магілёўскі раён, в.Брылі, вул.Юбілейная, 6-7. Тэл. 8-0222-710451
E-mail: mikolabryl@gmail.com. Выдавец Яцкова Ала Міхайлаўна.
Наклад 299 асобнікаў. Фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 22.05.2015 г. у 10.00.